Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

ПРАЦЫ БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАГА ІНСТЫТУТУ СЕЛЬСКАЕ і ЛЯСНОЕ ГАСПАДАРКІ імя Ў. І. ЛЕНІНА пры СНК БССР

Т. XXXV АДДЗЕЛ РАСЬЛІНАВОДЗТВА П/АДДЗЕЛ ГЕНЭТЫКІ і СЭЛЕКЦЫІ Вып. № 3.

ЮРЫ РЭГО

# 1. ГЕНОТЫПОВАЯ РОЗЬНІЦА ГЕОГРАФІЧНЫХ ГРУП РАС TRITICUM YULGARE YILL.

# 2. ДА ГЕНЭТЫКІ ЯЧМЕНЮ (NORDEUM SATIVUM JESS)

ТРУДЫ
БЕЛОРУССКОГО НАУЧНО-ИССЛЕДОВАТЕЛЬСКОГО ИНСТИТУТА СЕЛЬСКОГО и ЛЕСНОГО ХОЗЯЙСТВА имени В. И. ЛЕНИНА при СНК БССР

Г. Р. РЕГО
1. ГЕНОТИПИЧЕСКОЕ РАЗЛИЧИЕ ГЕОГРАФИЧЕСКИХ ГРУПП РАС TRITICUM VULGARE VILL.
2. К ГЕНЕТИКЕ ЯЧМЕНЯ (HORDEUM SATIVUM JESS)

BULLETIN
OF THE WHITE RUTHENIAN LENIN'S INSTITUTE OF SCIENTIFIC RESEARCH OF AGRICULTURE AND FORESTRY AT THE SOWIET OF PEOPLES COMMISSARIES OF WRSSR

G. REGOT
1. THE HEPOTYPICAL VARIETY OF THE GEOGRAPHICAL GRUPS OF RACES TRITICUM VULGARE VILL.
2. QN GENETICS OF BARLEY

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1930

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!



ПРАЦЫ БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАГА ІНСТЫТУТУ СЕЛЬСКАЕ і ЛЯСНОЕ ГАСПАДАРКІ імя Ў. І. ЛЕНІНА пры СНК БССР

Т. XXXV АДДЗЕЛ РАСЬЛІНАВОДЗТВА П/АДДЗЕЛ ГЕНЭТЫКІ і СЭЛЕКЦЫІ Вып. № 3.



ЮРЫ РЭГО



# 1. ГЕНОТЫПОВАЯ РОЗЬНІЦА ГЕОГРАФІЧНЫХ ГРУП РАС TRITICUM VULGARE VILL.

# 2. ДА ГЕНЭТЫКІ ЯЧМЕНЮ (HORDEUM SATIVUM JESS)



ТРУДЫ
БЕЛОРУССКОГО НАУЧНО-ИССЛЕДОВАТЕЛЬСКОГО ИНСТИТУТА СЕЛЬСКОГО и ЛЕСНОГО ХОЗЯЙСТВА имени В. И. ЛЕНИНА при СНК БССР

Г. Р. РЕГО
1. ГЕНОТИПИЧЕСКОЕ РАЗЛИЧИЕ ГЕОГРАФИЧЕСКИХ ГРУПП РАС TRITICUM VULGARE VILL.
2. К ГЕНЕТИКЕ ЯЧМЕНЯ (HORDEUM SATIVUM JESS)

BULLETIN
OF THE WHITE RUTHENIAN LENIN'S INSTITUTE OF SCIENTIFIC RESEARCH OF AGRICULTURE AND FORESTRY AT THF SOWIET OF PEOPLES COMMISSARIES OF WRSSR

G. REGOT
1. THE HEPOTYPICAL VARIETY OF THE GEOGRAPHICAL GRUPS OF RACES TRITICUM VULGARE VILL.
2. ON GENETICS OF BARLEY




# ЗЬМЕСТ

**Генотыповая розьніца географічных груп рас Triticum vulgare Vill.**



**Да генэтыкі ячменю. Hordeum sativum Jess.**




Н. І. Вавілаў вызначае тры асноўныя натуральныя групы рас мяккай пшаніцы: 1) індо-эўропэйскую ці арыйскую (indo-europeum), 2) грубакалосую—rigidum і 3) полбападобную—speltiforme. Пададзеныя групы характарызуюцца зусім вызначаным арэалам свайго пашырэньня і цэлым комплексам біолёгічнай і мірфолёгічнай розьніцы. Асобныя адмены (varietas) мяккай пшаніцы, зьяўляючыся, у большасьці выпадкаў, штучнымі сыстэматычнымі адзінкамі, могуць быць дыфэрэнцыяваны, такім чынам, па пададзенай вышэй схэме на натуральныя групы формы. Па адзнацы лігульнасьці і інфлянтнасьці Н. І. Вавілаў у сваім азначніку мяккіх пшаніц падае папярэднюю разьбіўку на групу ligulatum Vav. і eligulatum Vav., прычым група ligulatum падзяляецца на muticum, aristatum, breviaristatum і inflatum.

К. А. Фляксбэргер падае наступную натуральную схэму падзелу мяккіх пшаніц. Усе формы Tricicum vulgare Vill. ім падзяляюцца на: 1) далікатныя формы —hapalopyrum і 2) грубыя—hadropyrum. Hapalopyrum у сваю чаргу падзяляецца на: 1) hyporboreum паўночныя хуткасьпелыя формы (sibiricum), 2) ruténicum—расійскія пшаніцы (rossicum) і 3) teutonicum—позьнясьпелыя, высокарослыя і вадалюбныя формы Заходняй Эўропы. Hadropyrum у сваю чаргу падзяляюцца на: 1) subrigidum і 2) „rigidum“. Сярод subrigidum сустракаюцца формы інфлятнага і нормальнага тыпу, а таксама лігульныя і бязьлігульныя. Тып „rigidum“ падзяляецца на: 1) vulgiforme, 2) speltiforme і 3) inflatum.

З мэтай высьвятленьня генотыповай розьніцы пададзеных вышэй географічна адасобленых груп рас намі зроблены гібрыдолёгічны аналіз наступнага раду скрыжаваньняў (1926, 27 і 28 г. г.) між морфолёгічна адасобленымі тыпамі:

1) між формамі індо-эўропэйскай групы і групай rigidum;

2) між формамі індо-эўропэйскай групы і групай speltiforme;

3) між формамі індо-эўропэйскай групы і inflatum [1]).

У $F_1$ адбывалася дакладнае батанічнае апісаньне гібрыдаў. У $F_2$ адбываўся гібрыдолёгічны аналіз, які складаўся ў колькасным падліку морфолёгічна розных батанічных форм, што групаваліся намі ў фэно-

[1]) Гэта апошняя група была прадстаўлена бязьлігульнай формай, якая належыць да разнастайнасьці Tr. vulgare var Horogi Vav, і па схэме К. А. Фляксбэргера можа быць аднесена да grex subrigidum (inflatum, eligulatum).

У скрыжаваньні № 272 мы мелі вельмі абмежаваны лік індывідуумаў, а таму быў зроблены толькі аналіз па тыпе коласа. Даныя паказаны ў табліцы № 2.

Табліца № 2

| № Скрыжаваньня<br>№ Скрещивания | Лік расьлін у $F_2$<br>Число растений в $F_2$ | | |
|---|---|---|---|
| | т. rigidum | т. subrigidum | т. блізкі да rutenicum<br>т. близкий rutenicum |
| Скрыжаваньне 272 . | 17 | 9 | 3 |

Гібрыдолёгічны аналіз у $F_3$, рабіўся па фэнотыповых групах. Сумарныя даныя аналізу фэнотыповых груп скр. 193 і гібрыдолёгічнага аналізу па сем'ях скр. 192, паказаны ў табліцы 3, прычым, для спрашчэньня тып subrigidum і „блізкі да rutegicum“ злучаліся ў адну групу.

Табліца № 3

| Фэнотыповыя групы<br>Фенотипические группы | Лік расьлін у $F_3$<br>Число растений в $F_3$ | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | т. rigidum | | | | | | т. subrigidum і блізкі да rutenicum<br>т. subrigidum и близкий rutenicum | | | | | | т. rutenicum | | | | | |
| | чырв. васьцяватая<br>красная остистая | чырв. паўвасьцяв.<br>красн. полуостист. | чырв. безасьцёвая<br>красн. безостая | белыя васьцяватыя<br>белые остистые | белыя паўвасьцяв.<br>белые полуостист. | белыя безасьцёвыя<br>белые безостые | чырв. васьцяватыя<br>красн. остистые | чырв. паўвасьцяв.<br>красн. полуостист. | чырв. безасьцёвыя<br>красн. безостые | белыя васьцяватыя<br>белые остистые | белыя паўвасьцяв.<br>белые полуостист. | белыя безасьцёвыя<br>белые безостые | чырв. васьцяватыя<br>красн. остистые | чырв. паўвасьцяв.<br>красн. полуостист. | чырв. безасьцёвыя<br>красн безостые | белыя васьцяватыя<br>белые остистые | белыя паўвасьцяв.<br>белые полуостист. | белыя безасьцёвыя<br>белые безостые |
| I rigidum чырвоныя васьцяватыя . . rigidum красные остистые . . . | 82 | 12 | 6 | 35 | 7 | — | 8 | 1 | 3 | 2 | 1 | — | — | — | — | 1 | — | — |
| II rigidum белыя васьцяватыя . . rigidum белые остистые . . | — | — | — | 14 | 8 | — | — | — | — | — | 1 | 1 | — | — | — | — | — | — |
| III rigidum чырв. паўвасьцяват. і безасьцёвыя . . rigidum красн. полуостист. и безостые . . . | 39 | 95 | 33 | 3 | 14 | — | 4 | 8 | 5 | 2 | 7 | 1 | — | — | — | — | — | — |
| IV rigidum белыя паўвасьцяв. і безасьцёвыя . . rigidum бел. полуостистые и безостые . . . | — | — | — | 3 | 12 | 3 | — | — | — | 5 | 1 | 2 | — | — | — | — | 1 | 1 |

| Фэнотыповыя групы<br>Фенотипические группы | Лік расьлін у $F_3$<br>Число растений в $F_3$<br>т. rigidum | | | | | | т. subrigidum i блізкі да rutenicum<br>т. subrigidum и близкий rutenicum | | | | | | т. rutenicum | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | чырв. васьціватая<br>красная остистая | чырв. паўвасьцяв.<br>красн. полуостист. | чырв. безасьцёвая<br>красн. безостая | белыя васьціватыя<br>белые остистые | белыя паўвасьцяв.<br>белые полуостист. | белыя безасьцёвыя<br>белые безостые | чырв. васьціватыя<br>красн. остистые | чырв. паўвасьцяв.<br>красн. полуостист. | чырв. безасьцёвыя<br>красн. безостые | белыя васьціватыя<br>белые остистые | белыя паўвасьцяв.<br>белые полуостист. | белыя безасьцёвыя<br>белые безостые | чырв. васьціватыя<br>красн. остистые | чырв. паўвасьцяв.<br>красн. полуостист. | чырв. безасьцёвыя<br>красн. безостые | белыя васьціватыя<br>белые остистые | белыя паўвасьцяв<br>белые полуостист. | белыя безасьцёвыя<br>белые безостые |
| V subrigidum чырв. васьцяв. . . . subrigidum красн. остистые . . . | 6 | — | — | 4 | — | — | 10 | — | — | 2 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| VI subrigidum бел. васьцяв. . . . subrigidum бел. остист. . . . | — | — | — | 4 | — | — | — | — | — | 17 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| VII subrigidum чырв. паўвасьцяв. i безвасьцёвая . . subrigidum красн. полуостист. и безост. . . . . | 3 | 18 | 3 | — | 7 | 4 | 16 | 67 | 19 | 3 | 5 | 5 | — | 1 | 5 | — | — | 2 |
| VIII subrigidum бел. паўвасьцёв. i безасьцёвыя . . subrigidum бел. полуостист. и безостые . . . | — | — | — | — | 16 | — | — | — | — | 4 | 41 | — | — | — | — | — | 1 | 1 |
| IX блізкі rutenicum белыя васьцяв. . близкий rutenicum белые остистые . | — | 1 | — | — | — | — | — | — | — | 4 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| X блізкі да rutenicum чырв. паўвасьцяв. i безасьцёвыя . . близкий к rutenicum красн. полуостист. и безостые . . . . | — | — | — | — | — | — | — | 3 | 2 | — | 1 | — | — | — | — | — | — | — |
| XI блізкі да rutenicum белыя паўвасьцяв. i безасьцёвыя . . близкий к rutenicum белые полуостист. и безостые . . . . | — | — | — | — | 3 | 1 | — | — | — | 4 | 40 | 17 | — | — | — | 5 | — | 4 |
| Разам . . .<br>Итого . . . | 130 | 126 | 42 | 63 | 67 | 8 | 38 | 79 | 29 | 43 | 97 | 26 | 0 | 1 | 5 | 6 | 2 | 8 |

## 11. Скрыжаваньні між групамі рас speltiforme i indoeuropeum

Гэта скрыжаваньне было зроблена між наступнымі батанічнымі формамі: Tricicum vulgare Vill ferrugineum speltiforme i Trit. vulgare Vill var albidum 604.

$F_1$ характарызавалася грубою будоваю коласу, чырвонай афарбоўкай яго, прамежным характарам васьцяватасьці, чырвоным зернем і прамежнай будовай плечка каласковай луські (паўсьпельтападобным).

Даныя гібрыдолёгічнага аналізу $F_2$ паказаны ў табліцы № 4.

Табліца № 4

| №№ фэнотыповых груп<br>№№ фенотипичных групп | Морфолёгічнае апісаньне групы<br>Морфологическое описание группы | Лік расьлін<br>Число растений |
|---|---|---|
| 1 | т. rigidum чырвонакалосая, васьцяватая, плечка тыпу Spalta . | |
| | " красноколосая, остистая, плечико типа " . . | 2 |
| 2 | " чырвонакалосая, васьцяватая, плечка прамежн. тыпу. | |
| | " красноколосая, остистая, плечико промежуточн. типа. | 8 |
| 3 | " белакалосая, васьцяватая, плечка прамежн. тыпу . | |
| | " белоколосая, остистая, плечико промежут. типа. . | 2 |
| 4 | " чырвонакалосая, паўвасьцяватая і безасьцёвая, плечка тыпу Spelta . . . . . . . . . | |
| | " краснолос., полуостист. и безостое плечико т. Spelta. | 10 |
| 5 | " чырвонакалосае, паўвасьцяв. і безасьцёв. плечка прамежнага тыпу . . . . . . . . . | |
| | " красноколосое, полуостистое и безостое, плечико промежуточного типа . . . . . . . | 12 |
| 6 | " чырвонакалосая, паўвасьцяватая і безасьцёвая, плечка акруглае . . . . . | |
| | " красноколосая, полуостистая и безостая, плечико округлое . . . . . . | 1 |
| 7 | " белакалосая, паўвасьцяватая і безасьцёвая, плечка прамежнага тыпу . . . . . . . | |
| | " белоколосая, полуостистая и безостая, плечико промежуточного типа. . . . . . | 4 |
| 8 | т. Subrigidum чырвонакалосая, васьцяватая, плечка акруглае . | |
| | " красноколосая, остистая, плечико округлое . | 1 |
| 9 | " белакалосая, васьцяватая, плечка прамежн. тыпу . | |
| | " белоколосая, остистая, плечико промежут. типа . | 1 |
| 10 | " чырвонакалосая, паўвасьцёвая і безасьцёвая, плечка тыпу Spelta . . . . . . . . | |
| 11 | " красноколосая, полуостистая и безостая плечико т. Spelta | 2 |
| | " чырвонакалос., паўвасьцяватая і безасьцёвая плечка прамежнага тыпу . . . . . . | |
| | " красноколосая, полуостистая и безостая, плечико промежуточного типа . . . . . | 3 |
| 12 | " чырвонакалос., паўвасьцяватая и безасьцёвая, плечка акруглае . . . . . . . | |
| | " красноколосая, полуостистая и безостая, плечико округлое . . . . . . . . | 1 |
| 13 | " белакалосая, паўвасьцяватая и безасьцёвая, плечка тыпу Spelta . . . . . . . | |
| | " белоколосая, полуостистая и безостая, плечико типа Spelta . . . . . . . | 2 |

| №№ фэнотыповых груп<br>№№ фенотипических групп | Морфолёгічнае апісаньне групы<br>Морфологическое описание группы | Лік расьлін<br>Число растений |
|---|---|---|
| 14 | т. Subrigidum белакалосая, паўвасьцяватая і безасьцёвая, плечка промежнага тыпу . . . . . . | |
| | " белоколосая, полуостистая и безостая, плечико промежуточного типа . . . . . . | 2 |
| 15 | " белакалосая, паўвасьцяватая і безасьцёвая, плечка акруглае . . . . . . . | |
| | " белоколосая, полуостистая и безостая, плечико округлое . . . . . . . | 1 |
| 16 | тып блізкі да rutenicum чырвонакалосая, васьцяватая, плечка прамежнага тыпу . . . | |
| | тип близкий к " красноколосая, остистая плечико промежуточного типа . . . . | 1 |
| 17 | тып блізкі да " чырвонакалосая, паўвасьцяватая і безасьцёвая, плечка прамежнага тыпу . . | |
| | тип близкий к " красноколосая, полуостистая и безостая, плечико промежуточного типа . . | 1 |
| 18 | тып блізкі да " чырвонакалосая, паўвасьцяватая і безасьцёвая, плечка акруглае . . . | |
| | тип близкий к " красноколосая, полуостистая и безостая плечико круглое . . . . | 2 |
| 19 | тып блізкі да " белакалосая, паўвасьцяватая і безасьцёвая, плечка прамежнага тыпу . . . | |
| | тип близкий к " белоколосая, полуостистая и безостая, плечико промежуточного типа . . | 2 |

Даныя гібрыдолёгічнага аналізу $F_3$, зробленага па фэнотыповых групах, паказаны ў табліцы № 5.

Т а б л і ц а № 5

| Фэнотыповыя групы<br>Фэнотипические группы | Лік расьлін у $F_3$ / Число растенний в $F_3$: тып rigidum / тип " | | | | | | тып Subrigidum i блізкі да rutenicum / тип Subrigidum и близк. к rutenicum | | | | | | тып rutenicum / тип " | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | чырв. васьцяватая<br>красная остистая | чырв. паўвасьцяв.<br>красн. полуостист. | чырв. безасьцёвая<br>красн. безостая | белая васьцяватая<br>белая остистая | белая паўвасьцяв.<br>белая полуостист. | белая безасьцёвая<br>белая безостая | чырв. васьцяватая<br>красная остистая | чырв. паўвасьцяв.<br>красн полуостист. | чырв. безасьцяват.<br>красн. безостая | белая васьцяватая<br>белая остистая | белая паўвасьцяв.<br>белая полуостая | белая безасьцёв.<br>белая безостая | чырв. васьцяватая<br>красная остистая | чырв. паўвасьцяв.<br>красн. полуостистая | чырв. безасьцёвая<br>красная безостая | белая васьцяватая<br>белая остистая | белая паўвасьцяв.<br>белая полуостистая | белая безасьцёвая<br>белая безостая |
| I група rigidum .<br>группа " . | 17 | 22 | 18 | 14 | 7 | 7 | — | 2 | 3 | 2 | 1 | 3 | 1 | — | — | — | — | — |
| II група subrigidum<br>" группа " | 11 | 15 | 3 | 4 | 10 | 7 | 39 | 28 | 11 | 7 | 7 | 15 | 3 | — | 3 | — | — | 2 |
| III група блізкая да rutenicum . .<br>" группа близкая да rutenicum . | 3 | 6 | 2 | — | 3 | 7 | 10 | 21 | 10 | 1 | 11 | 7 | 4 | 5 | 3 | 1 | 5 | 6 |

### III. Скрыжаваньне між групай рас inflatum i indo-europeum

З мэтай выясьненьня генэтычнай прыроды адзнакі інфлятнасьці, намі быў зроблены ў 1926 годзе рад скрыжаваньняў, у якіх мацярынскай формай зьяўлялася Tr. vulgare var, Horogi Vav (бязьлігульная інфлятная форма), бацькаўскія-ж формы належалі да інда-эўропэйскай групы рас і былі прадстаўлены наступнымі адменамі: 1) у скрыжаваньні 194—v. lutescens Ruby, 2) у скрыжаваньні 333—v. graecum Preŝton i 3) у скрыжаваньні 448—v. ferrugineum indo-europeum.

Вельмі абмежаваны лік расьлін даў магчымасьць зрабіць у $F_2$ толькі сумарны аналіз па тыпе коласа, затое скрыжаваньне 1927 г. Horogi× lutescens Макензе дало магчымасьць у $F_2$ зрабіць больш дакладны гібрыдолёгічны аналіз раду адзнак.

Ва ўсіх пададзеных вышэй скрыжаваньнях $F_2$ характарызавалася грубым тыпам коласа і наяўнасьцю ligula, прычым пашыранасьць васьцяватых дадаткаў у месцы прымацаваньня кветкавых плевак, а таксама характарная для inflatum загнутасьць васьцяватых дадаткаў, у першым пакаленьні гібрыдаў—адсутнічала. Іншымі славамі, у $F_2$ дамінаваў грубы, але ня інфлятны тып.

Даныя аналізу скрыжаваньняў 1926 г. зьведзены ў табліцы № 6.

Табліца № 6

| №№ скрыжаваньняў<br>№№ скрещиваний | тып inflatum<br>тип " | тып subinflatum<br>тип subinflatum | тып rigidum<br>тип " | тып блізкі да rutenicum<br>тип близкий к rutenicum | т. rutenicum<br>т. " |
|---|---|---|---|---|---|
| Скрыжаваньне 194<br>Скрещивание 194 | 4 | 4 | 8 | 5 | 0 |
| Скрыжаваньне 333<br>Скрещивание 333 | 3 | — | 8 | — | — |
| Скрыжаваньне 448<br>Скрещивание 448 | 7 | 3 | 6 | | — |
| Разам . .<br>Итого . . | 14 | 7 | 22 | 9 | 0 |

Цікава адзначыць, што ў скрыжаваньні № 194 абедзьве бацькаўскія формы (v. Horogi i v. lutescens Ruby) адносіліся да безасьцёвых рознастайнасьцяй, толькі з параўнаўча слаба выяўленымі васьцяватымі адросткамі „tipped", між тым у патомстве, што расшчаплялася, выклініваліся тыповыя паўвасьцёвыя формы.

$F_2$ скрыжаваньня 1927 году (№ 1275) намі было больш дакладна прааналізавана па адзнаках васьцяватасьці і лігульнасьці. Даныя гібрыдолёгічнага аналізу зьведзены ў табліцу № 7.

Табліца № 7.

| Фэнотыповыя групы па тыпе і афарбоўцы коласа / Фенотипические группы по типу и окраске колоса | Лік расьлін у $F_2$ / Число растений в „ | | | | | | Разам / Итого |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | безасьцёвыя / безостые | | „tipped“ | | паўвасьцяватыя / полуостистые | | |
| | ligul | eligul | ligul | eligul | ligul | eligul | |
| 1. тып inflatum чырвонакалосыя . / тип „ красноколосые . | 24 | 2 | 10 | 3 | 1 | — | 40 |
| 2. тып „ белакалосыя . . / тип „ белоколосые . . | 4 | 1 | 3 | — | 1 | 1 | 10 |
| 3. тып subinflatum чырвонакалосыя . / тип „ красноколосые . | 5 | — | — | — | — | — | 5 |
| 4. тып rigidum чырвонакалосыя . / тип „ красноколосые . | 12 | — | 27 | 1 | 2 | — | 42 |
| 5. тып „ белакалосыя . / тип „ белоколосые . | 4 | — | 4 | — | 5 | — | 13 |
| 6. тып блізкі да rutenicum чырвонакалосая . / тип близкий к „ красноколосая. | 9 | — | — | — | — | — | 9 |
| 7. тып блізкі да „ белакал. / тип близкий к „ белокол. | 3 | — | — | — | — | — | 3 |
| Разам . . / Итого . . | 61 | 3 | 44 | 4 | 9 | 1 | 122 |

Даныя гібрыдолёгічнага аналізу па тыпе коласа ў $F_3$ скрыжаваньняў 1926 году зьведзены ў табліцу № 8.

Табліца № 8

| №№ скрыжаваньняў / №№ скрещиваний | Фэнатыповыя групы / Фенотипические группы | Лік расьлін у $F_3$ / Число растений в „ | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | тып inflatum / тип „ | тып subinflatum / тип subinflatum | тып rigidum / тип „ | тып subrigidum / тип subrigidum | тып rutenicum / тип rutenicum |
| 194 | тып rigidum . . . / тип „ . . . . | 2 | — | 9 | 5 | — |
| 194 | т. Subrigidum . . . | 1 | — | 3 | 7 | — |
| 194 | т. блізкі да rutenicum . / т. близкий к „ | 1 | 1 | 3 | 3 | 2 |
| 333 | т. inflatum . . . . | 6 | 5 | — | 1 | — |
| 333 | т. rigidum . . . . | 13 | — | 16 | 20 | 1 |
| 448 | т. rigidum . . . . | 4 | — | 32 | 10 | 1 |
| 448 | т. блізкі да rutenicum . / т. блізкий к „ | 1 | 2 | — | 10 | 6 |

## ГЕНОТЫПОВАЯ РОЗЬНІЦА Ў ТЫПЕ КОЛАСА

### а) Тып rigidum

Даныя гібрыдолёгічныя аналізу скрыжаваньняў milturum Khogo-tense×graecum і rigidum×lutescens Ruby даюць матэрыял для расшыфраваньня генэтычнай прыроды грубага тыпу коласа „rigidum".

З аналізу першага пакаленьня гібрыдаў ясна выплывае домінаваньне тыпу rigidum над indo-europeum. Характар расшчапленьня другога пакаленьня гібрыдаў, а таксама даныя аналізу фэнотыповых груп у $F_3$ сьведчыць аб полімернай прыродзе адзнакі, выклікаючай грубы тып коласа, паказваючы таксама, у значнай меры, на трыгібрыдны характар расчапленьня. Калі дапусьціць прысутнасьць у Tr. vulgare v. graecum rigidum трох адназначаных фактараў, абазначаных намі алеломорфамі $R_1$—$r_1$ $R_2$—$r_2$ $R_3$—$r_3$ і для выяўленьня грубога тыпу rigidum дапусьціць патрэбным прысутнасьць, па меншай меры, трох фактараў грубасьці, што мы і наглядалі ў першым пакаленьні гібрыдаў, дзе $F_1$ з генэтычнай формулай $R_1$ $r_1$ $R_2$ $r_2$ $R_3$ $r_3$ дае грубы тып; для тыпу „subrigidum", што вылучаецца намі, дапусьціць патрэбным прысутнасьць двух фактараў і для тыпу блізкага да rutenicum—аднаго, дык тэорытычныя суадносіны фэнотыпаў у $F_2$ па тыпе коласа ясна выплываюць з прыкладзенай табліцы № 9.

Табліца № 9

| Гаметы<br>Гаметы | $R_1 R_2 R_3$ | $R_1 R_2 r_3$ | $R_1 r_2 R_3$ | $r_1 R_2 R_3$ | $R_1 r_2 r_3$ | $r_1 R_2 r_3$ | $r_1 r_2 R_3$ | $r_1 r_2 r_3$ |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| $R_1$ $R_2$ $R_3$ | 6 | 5 | 5 | 5 | 4 | 4 | 4 | 3 |
| $R_1$ $R_2$ $r_3$ | 5 | 4 | 4 | 4 | 3 | 3 | 3 | 2 |
| $R_1$ $r_2$ $R_3$ | 5 | 4 | 4 | 4 | 3 | 3 | 3 | 2 |
| $r_1$ $R_2$ $R_3$ | 5 | 4 | 4 | 4 | 3 | 3 | 3 | 2 |
| $R_1$ $r_2$ $r_3$ | 4 | 3 | 3 | 3 | 2 | 2 | 2 | 1 |
| $r_1$ $R_3$ $r_3$ | 4 | 3 | 3 | 3 | 2 | 2 | 2 | 1 |
| $r_1$ $r_2$ $R_3$ | 4 | 3 | 3 | 3 | 2 | 2 | 2 | 1 |
| $r_1$ $r_2$ $r_3$ | 3 | 2 | 2 | 2 | 1 | 1 | 1 | 0 |

Для большай нагляднасьці суадносіны фэнотыпаў могуць быць зьведзены ў наступную табліцу № 10.

Табліца № 10

| Тып rigidum<br>Тип „ | Тып subrigidum<br>Тип „ | Тып блізкі да rutenicum<br>Тип близкий к „ | Тып rutenicum<br>Тип „ |
|---|---|---|---|
| 42 | 15 | 6 | 1 |

Калі параўнаць атрыманыя адносіны ў $F_2$ з тэорытычнымі, прыведзенымі да аднаго і таго-ж ліку выпадкаў, дык можна констатаваць амаль поўнае іх супаданьне (гл. табл. № 11).

Табліца № 11

| №№ скрыжаваньняў / №№ скрещиваний | Значэньне лічбаў / Значение чисел | Фэнотыповыя групы / Фенотипические группы: rigidum | subrigidum | блізкі да rutenicum / близкий к rutenicum | rutenicum | Лік выпадкаў / Число случаев |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 192 і 193 | Ідэальныя лічбы (l) . . . . / Идеальные числа . . . . | 42 | 15 | 6 | 1 | n-137 |
| | Нагляданыя лічбы (p) . . . / Наблюдаемые числа . . . | 94 | 35 | 8 | 0 | |
| | Чаканыя лічбы (q) . . . . / Ожидаемые числа . . . . | 90 | 32.1 | 12.8 | 2.1 | |
| | ± m . . . . . . . | ±5.5 | ±4.95 | ±3.4 | ±1.4 | |
| | D. . . . . . . . . | 4 | 2.9 | 4.8 | 2.1 | |
| 272 | Нагляданыя лічбы (p) . . . / Наблюдаемые числа . . . | 17 | 9 | 3 | 0 | n-29 |
| | Чаканыя лічбы (q) . . . / Ожидаемые числа . . . | 22.1 | 6.8 | 2.7 | 0.4 | |
| | ±m . . . . . . . | ±2.29 | ±2.28 | ±1.56 | ±0.62 | |
| | D. . . . . . . . . | 5.1 | 2.2 | 0.3 | 0.4 | |

Гібродолёгічны аналіз асобных фэнотыповых груп у $F_3$ яшчэ ў большай меры пацьвярджае выказанае намі меркаваньне генотыповага складу тыпу rigidum.

Фэнотыповая група т. rigidum у $F_3$ павінна расчапляцца на наступныя морфолёгічныя тыпы з тэорытычнымі суадносінамі—284 : 45 : 1, што відаць з прыкладзенай табліцы № 12.

Табліца № 12

| Генотыпы / Генотипы | Расшчапленьне ў $F_3$, дапасаванае да 64 / Расщепление в $F_2$ приведенное к 64 | | | Памножанае на лік генатыпаў / Помноженное на число генотипов | Лік фэнотыпаў у $F_3$ / Число фенотипов в $F_3$: Rigidum | Subrigidum | Rutenicum |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1) з 6-ма генамі . / с 6-ю генами . | 64 | — | — | ×1 | 64 | — | — |
| 2) з 5-ма генамі . / с 5-ю генами . | 64 | — | — | ×6 | 384 | — | — |
| 3) з 4-ма генамі . / с 4-мя генами . | 64 | — | — | ×3 | 192 | — | — |
| з 4-ма генамі . / с 4-мя генами . | 60 | 4 | — | ×12 | 720 | 48 | — |
| 4) з 3-ма генамі . / с 3-мя генами . | 48 | 12 | — | ×12 | 576 | 144 | — |
| з 3-ма генамі . / с 3-мя генами . | 42 | 21 | 1 | ×8 | 336 | 168 | 8 |
| | | | | Разам . . / Итого . . | 2272 | 360 | 8 |

Тэорытычныя суадносіны / Теоретическое соотношение 284 : 45 : 1

Для фэнотыповай групы subrigidum теорытычныя суадносіны морфолёгічных груп у $F_3$ павінны быць 5:14:1, што відаць з прыкладзенай табліцы № 13.

Табліца № 13

| Генотыпы<br>Генотипы | Расшчапленьне ў $F_3$ дапасаванае да 16<br>Расщепление в $F_3$ приведенное к 16 | | | Памножанае на лік генотыпаў<br>Умноженное на число генотипов | Лік фенотыпаў у $F_3$<br>Число фенотипов в $F_3$ | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Rigidum | Subrigidum | Rutenicum | | Rigidum | Subrigidum | Rutenicum |
| З 2-ма генамі.<br>С 2-мя генами | 5 | 10 | 1 | ×12 | 60 | 120 | 12 |
| З 2-ма генамі.<br>С 2-мя генами | — | 16 | — | ×3 | — | 48 | — |
| | | | | Разам<br>Итого | 60 | 168 | 8 |

Тэорытычныя суадносіны<br>Теоретическое соотношение 5:14:1

Для фэнотыповай групы — „бл. rutenicum“ генотыповага складу $R_1\,r_1\,r_2\,r_2\,r_3\,r_3$, $r_1\,r_1\,R_2\,r_2\,r_3\,r_3$ і $r_1\,r_1\,r_2\,r_2\,R_3\,r_3$ тэорытычныя суадносіны морфолёгічных груп у $F_3$ павінны быць—1 subrigidum: 2 бл. rutenicum: 1. rutenicum.

Даныя гібрыдолёгічнага аналізу па фэнотыповых групах у $F_3$ могуць быць зьведзены ў наступную табліцу (гл. табліцу № 14).

Табліца № 14

| Фэнотыповыя групы ў $F_2$<br>Фенотипические группы в $F_2$ | Значэньне лічбаў<br>Значение чисел | Фэнотыповыя групы ў $F_3$<br>Фенотипические группы в $F_3$ | | | Лік выпадкаў<br>Число случаев |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Rigidum | Subrigidum і блізк. да rutenicum | Rutenicum | |
| Тып rigidum<br>Тип „ | Ідэальныя лічбы (I)<br>Идеальные числа „ | 284 | 45 | 1 | |
| | Нагляданыя лічбы (p)<br>Наблюдаемые числа „ | 366 | 52 | 3 | n=421 |
| | Чаканыя лічбы (q)<br>Ожидаемые числа „ | 362,3 | 57,4 | 1,3 | |
| | ± m | ±77 | ±7,0 | ±1,1 | |
| | D | 3,7 | 5,4 | 1,7 | |

| Фэнотыповыя групы ў $F_2$<br>Фэнотипические группы в $F_2$ | Значэньне лічбаў<br>Значение чисел | Фэнотыповыя групы ў $F_3$ / Фенотипические группы в $F_3$ | | | Лік выпадкаў<br>Число случаев |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Rigidum | Subrigidum і блізк. да rutenicum | Rutenicum | |
| Тып subrigidum .<br>Тип " . | Ідэальныя лічбы (l) . . .<br>Идеальные числа . . . | 5 | 14 | 1 | |
| | Нагляданыя лічбы (p) . .<br>Наблюдаемые числа . . . | 65 | 189 | 10 | n=264 |
| | Чаканыя лічбы (q) . . .<br>Ожидаемые числа . . . | 66 | 184,8 | 13,2 | |
| | ± m . . . | ± 7,0 | ± 7,4 | ± 3,5 | |
| | D . . . | 1,0 | 4,2 | 3,2 | |
| Тып блізкі да rutenicum . .<br>Тип близкий к rutenicum . . | Ідэальныя лічбы (l) . . .<br>Идеальные числа . . . | — | 3 | 1 | |
| | Нагляданыя лічбы (p) . .<br>Наблюдаемые числа . . . | 5 | 71 | 9 | n=85 |
| | Чаканыя лічбы (q) . .<br>Ожидаемые числа . . . | — | 64 | 21 | |
| | ± m . . . | — | ±3,98 | ±3,98 | |
| | D . . . | — | 7 | 12,0 | |

Як бачым, па ўсіх фэнотыповых групах супаданьне між тэорытычнымі і атрыманымі суадносінамі амаль поўнае, што пацьвярджае выказанае намі меркаваньне аб генэтычнай прыродзе тыпу rigidum; выключэньне складае апошняя група—„бл. rutenicum", што можа быць растлумачана некаторай цяжкасьцю дакладнага вызначэньня морфолёгічных груп, якія адпавядалі-б пэўнаму генотыпу. Выкліньваньне ў патомстве данай групы форм тыпу rigidum, сьведчаць, што пры аналізе $F_2$ намі былі аднесены ў групу „бл. rutenicum" ня толькі формы з адным генам грубасьці коласа, але і крайнія варыянты групы subrigidum гетерозіготнага тыпу, гэта значыць з двумя markdown рознымі аднозначнымі фактарамі, выклікаючымі зьяўленьне грубой будовы коласа. Індывідуальны аналіз патомства асобных расьлін, высеяных на $F_3$ і прароблены намі для скрыжаваньня № 192, дае маг-







чымасьць (праўда, на вельмі абмежаваным матэрыяле) вызначыць у асобных сем'ях расшчапленьне вельмі блізкае да тэорытычных адносін 1:2:1, што ў значнай меры пацьвярджае ўдзел аднаго адназначнага фактару ў зьяўленьні грубога тыпу коласа гэтай групы.

Другой морфолёгічнай адзнакай групы рас rigidum зьяўляецца характарны васьцяваты зубец на каласковай лусцы.

Пададзеныя ў табліцы № 1 даныя гібрыдолёгічнага аналізу дазваляюць таксама падыйсьці да выясьненьня генэтычнай прыроды ўнасьледваньня данай адзнакі. Суадносіны форм з васьцяватым зубцом > 7 *мм* да форм безасьцёвага зубца складаюць 44:93 ці 1:2,1, што блізка да тэорытычных адносін 1:2. Для таго, каб расшыфраваць атрыманыя адносіны, прааналізуем даныя гібрыдолёгічнага аналізу. З табліцы № 1 відаць, што формы з васьцяватым зубцом сустракаюцца толькі ў васьцяватай групе, у той час як формы без васьцяватага адростка сустракаюцца як у васьцяватай, так і безасьцёвай групах. Лічбовыя суадносіны паказаных морфолёгічных тыпаў зьведзены ў прыкладзеную табліцу (глядзі табліцу № 15).

Табліца № 15

| | Васьцяватыя формы з васьцяватым зубцом > 7 *мм*<br>Остистые формы с остевидным зубцом > 7 *мм* | Васьцяватыя формы без васьцяватага зубца<br>Остистые формы без остевидного зубца | Безасьцёвыя формы без васьцяватага зубца<br>Безостые формы без остевидного зубца |
|---|---|---|---|
| Лік расьлін . .<br>Число растений . | 44 | 9 | 84 |

Адносіны васьцяватых форм да безасьцёвых роўны—53:84, што блізка стаіць да тэорытычнага 7:9. Магчымасьць падобных дзігібрыдных адносін намі ўжо адзначалася ў ранейшых працах і некалькі ніжэй мы спынімся больш падрабязна на генэтычнай прыродзе ўнасьледваньня васьцяватасьці па матэрыялах сучасных дасьледваньняў.

Калі цяпер дапусьціць, што васьцяваты зубец выклікаецца асобным фактарам „Z“, прычым зьяўленьне данай адзнакі магчыма толькі ў прысутнасьці фактараў, што выклікаюць зьяўленьне адзнакі васьцяватасьці, дык тэорытычныя суадносіны форм павінны быць наступныя:

21 васьцяватыя з васьцяватым зубцом: 7 васьцяватыя, але без васьцяватага зубца (у моц адсутнасьці факта Z): 36 безасьцёвы і без васьцяватага зубца (бо фактар Z, што ёсьць у 27 генотыпаў не зьяўляецца ў моц з адсутнасьці адпаведнага злучэньня генаў, выклікаючых васьцяватасьць; у астатніх-жа 9 генотыпаў даны фактар адсутнічае).

Атрыманыя пры нашых досьледах адносіны вельмі блізкія да тэорытычных (гл. табл. № 16), што ў значнай меры пацьвярджае выказанае намі меркаваньне аб генэтычнай прыродзе данай адзнакі.

Табліца № 16

| Значэньне лічбаў<br>Значение чисел | Фэнетыповыя групы<br>Фенотипические группы | | | Лік выпадкаў<br>Число случаев |
|---|---|---|---|---|
| | Васьцяватыя формы з васьцяватым зубцом<br>Остевидные формы с остевидным зубцом | Васьцяватыя формы без васьцяватага зубца<br>Остевидные формы без остевидного зубца | Безасьцёвыя формы без васьцяватага зубца<br>Безостые формы без остевидного зубца | |
| Ідэальныя лічбы (l)<br>Идеальные числа | 21 | 7 | 36 | n = 137 |
| Нагляданыя лічбы (p)<br>Наблюдаемые числа | 44 | 9 | 84 | |
| Чаканыя лічбы (q)<br>Ожидаем. числа | 44,9 | 14.9 | 77.03 | |
| ± m | ± 5,5 | ± 3.6 | ± 5,8 | |
| D | 0.9 | 5,9 | 6,97 | |

## б) Тып Speltiforme

Даныя гібрыдолёгічнага аналізу першага, другога і трэцяга пакаленьня гібрыдаў паказваюць: 1) на домінаваньне грубога тыпу speltiforme і 2) на полімерную прыроду данай адзнакі.

Атрыманыя лічбовыя адносіны пры аналізе $F_2$ скрыжаваньняў данага тыпу (speltif. × indo-europeum) вельмі блізка да такіх у скрыжаваньні rigidum × indo-europeum. Дапусьціўшы і ў даным выпадку таксама ўдзел трох незалежных фактараў $R_1$, $R_2$ і $R_3$, мы атрымліваем супаданьне атрыманых лічбовых суадносін з тэорытычнымі, што відаць з прыкладзенай табліцы № 17.

Табліца № 17

| Значэньне лічбаў<br>Значение чисел | Фэнотыповыя групы<br>Фенотипические группы | | | | Лік выпадкаў<br>Число случаев |
|---|---|---|---|---|---|
| | Rigidum | Subrigidum | Блізкі да rutenicum | Rutenicum | |
| Ідэальныя лічбы (l)<br>Идеальные числа | 42 | 15 | 6 | 1 | n = 58 |
| Нагляданыя лічбы (p)<br>Наблюдаемые числа | 39 | 13 | 6 | 0 | |
| Чаканыя лічбы (q)<br>Ожидаемые числа | 38,1 | 13,6 | 5,4 | 0,9 | |
| ± m | ± 3.6 | ± 3,2 | ± 2,2 | ±0,99 | |
| D | 0,9 | 0.6 | 0,6 | 0,9 | |

Гібрыдолёгічны аналіз, зроблены па фэнатыповых групах ў $F_3$ яшчэ ў большай меры пацьвярджае выказанае намі меркаваньне аб трыгібрыдным характары расшчапленьня, што відаць з прыкладзенай табліцы № 18.

Табліца № 18

| Генотыповыя групы $F_2$<br>Генотипическое группы $F_2$ | Значэньне лічбаў<br>Значение чисел | Фэнотыповыя групы ў $F_3$<br>Фенотипические группы в $F_3$ | | | Лік выпадкаў<br>Число случаев |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Rigidum | Subrigidum і блізкі да ru-tenicum | Rutenicum | |
| Тып rigidum . .<br>Тип " . . | Ідэльныя лічбы (l) . . .<br>Идеальные числа" . . . | 284 | 45 | 1 | |
| | Нагляданыя лічбы (p) . .<br>Наблюдаемые числа " . . | 85 | 11 | 1 | n = 97 |
| | Чаканыя лічбы (q) . .<br>Ожидаемые числа " . . | 83,5 | 13,2 | 0,3 | |
| | ± m . . . | ± 3,4 | ±3,37 | ±0,54 | |
| | D . . . | 1,5 | 2,2 | 0,7 | |
| Тып subrigidum .<br>Тип " . | Ідэальныя лічбы (l) . .<br>Идеальные числа " . . | 5 | 14 | 1 | |
| | Нагляданыя лічбы (p) . .<br>Наблюдаемые числа " . . | 50 | 107 | 8 | n = 165 |
| | Чаканыя лічбы (q) . .<br>Ожидаемые числа " . . | 41,2 | 115,5 | 8,25 | |
| | ± m . . . | ± 5,5 | ± 5,9 | ± 2,8 | |
| | D . . . | 8,8 | 8,5 | 0,25 | |
| Тып блізкі да rutenicum . .<br>Тип близкий к rutenicum . . | Ідэальныя лічбы (l) . .<br>Идеальные числа " . . | — | 3 | 1 | |
| | Нагляданыя лічбы (p) . .<br>Наблюдаемые числа " . . | 21 | 60 | 24 | n = 105 |
| | Чаканыя лічбы (q) . .<br>Ожидаемые числа " . . | — | 78,7 | 26,3 | |
| | ± m . . . | — | ± 4,4 | ± 4,4 | |
| | D . . . | — | 18,7 | 2,3 | |

Выклініваньне ў фэнотыповай групе „бл. rutenicum" грубых форм тыпу rigidum паказвае нам на некаторую недакладнасьць, што зьявілася пры морфолёгічным аналізе другога пакаленьня гібрыдаў, аб чым намі зазначалася вышэй.

Пададзеныя даныя аналізу дазваляюць меркаваць, што грубы тып коласа speltiforme, таксама як і rigidum, выклікаецца трыма незалежнымі, адназначнымі фактарамі.

Характарнай морфолёгічнай адзнакай групы рас speltiforme, зьяўляецца плечка каласковай лускі тыпу spelta. Даныя гібрыдолёгічнага аналізу паказваюць на прамежны характар данай адзнакі ў $F_1$ і на моногібрыдны характар расшчапленьня ў $F_2 = 16:42$ (блізкае да тэорытычнага 1:3), што дазваляе меркаваць прысутнасьць асобнага фактара, абазначанага намі алеломорфай S—s, які выклікае ў гомозіготным злучэньні (SS) зьяўленьне данай адзнакі.

### в) Тып inflatum

У першым пакаленьні гібрыдаў усіх скрыжаваньняў з інфлятнай формай зьяўляецца грубы, але ня інфлятны тып. У другім-жа пакаленьні гібрыдаў мы сустракаем ясна выяўлены тып inflatum, тып subinflatum, т. rigidum, т. subrigidum і бл. rutenicum. У $F_2$ формы тыпу rutenicum намі ня былі знойдзены, у $F_3$ яны знойдзены. Ужо пададзеныя даныя з відавочнасьцю сьведчаць, што прымаўшая ўдзел у скрыжаваньні var Horogi, апрача генаў, выклікаючых інфлятнасьць, мае і гены, што выклікаюць зьяўленьне грубага тыпу коласа. Характар рашчапленьня ў $F_2$ і $F_3$ сьведчыць аб полімернай прыродзе адзнакі грубасьці. Усё гэта прымушае нас выказаць наступнае меркаваньне генотыповага складу ўдзельнічаўшай у скрыжаваньні інфлятнай формы:

1) Тып inflatum выклікаецца асобным фактарам, які абазначаецца намі алеломорфай J — i;

2) зьяўленьне адзнакі інфлятнасьці магчыма толькі пры гомозіготным злучэньні данага фактара (JJ), ці ў выпадку гетэрозіготнага злучэньня (Ji), абавязковым зьяўляецца гомозіготнае злучэньне хоць-бы аднаго з фактараў, што выклікаюць зьяўленьне грубой будовы коласа (RR).

Тып расшчапленьня ў $F_2$ і гібрыдолёгічны аналіз фэнотыповых груп у $F_3$ дазваляе меркаваць наступную генэтычную формулу var Horogi — $R_1 R_1 R_2 R_2$ JJ.

Дапускаючы, што генотыпы складу: $R_1 R_1 R_2 R_2$ JJ, $R_1 R_1 R_2 R_2$ Ji, $R_1 R_1 R_2 r_2$ JJ, $R_1 R_1 R_2 r_2$ Ji, $R_1 r_1 R_2 r_2$ JJ, $R_1 R_1 r_2 r_2$ JJ, $R_1 R_1 r_2 r_2$ Ji, $R_1 r_1 r_2 r_2$ JJ і $r_1 r_1 r_2 r_2$ JJ будуць выклікаць зьяўленьне інфлятнага і паўінфлятнага тыпу; генотыпы — $R_1 R_1 R_2 R_2$ ii, $R_1 R_1 R_2 r_2$ ii, $R_1 r_1 R_2 r_2$ Ji, $R_1 r_1 R_2 r_2$ ii, $R_1 r_1 r_2 r_2$ Ji і $R_1 R_1 r_2 r_2$ ii = зьяўленьне тыпу rigidum, генотыпы — $R_1 r_1 r_2 r_2$ ii і $r_1 r_1 r_2 r_2$ Ji — тып бл. rutenicum і ге-

нотып будовы $r_1 r_1 r_2 r_2 ii$ — т. rutenicum. Тэорытычныя суадносіны фэнотыпаў у $F_2$ павінны быць наступныя: 30 inflarum, 27 rigidum, 6 бл. rutenicum, 1 rutenicum.

Параўноўваючы тэорытычныя суадносіны фэнотыпаў з атрыманымі ў другім пакаленьні гібрыдамі, мы можам констатаваць досыць поўнае іх супаданьне (гл. табл. 19).

Табліца № 19

| №№ скрыжаваньняў<br>№№ скрещиваний | Значэньне лічбаў<br>Значение чисел | Фэнотыповыя групы ў $F_3$ / Фенотипич. группы в $F_3$: Inflatum i subinflatum | Rigidum i subrigidum | Блізкі да rutenicum | Rutenicum | Лік выпадкаў<br>Число случаев |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Скрыжаваньні 194, 333, 448<br>Скрещивания 194, 333, 448 | Ідэальныя лічбы (l)<br>Идеальные числа „ . . | 30 | 27 | 6 | 1 | |
| | Нагляданыя лічбы (p)<br>Наблюдаемые числа „ . . | 21 | 22 | 9 | 0 | n=52 |
| | Чаканыя лічбы (q)<br>Ожидальные числа „ . . | 24.4 | 21.9 | 5.0 | 0.8 | |
| | ± m . . . . . . . | ± 3.6 | ± 3.5 | ± 2.1 | ±0.88 | |
| | D . . . . . . . . | 3.4 | 0.1 | 4.0 | 0.8 | |
| Скрыжаваньне 1275<br>Скрещивание 1275 | Нагляданыя лічбы (p)<br>Наблюдаемые числа „ . . | 55 | 55 | 12 | 0 | n=122 |
| | Чаканыя лічбы (q)<br>Ожидальные числа „ . . | 57 | 51.5 | 11.4 | 1.9 | |
| | ± m . . . . . . . | ± 5.5 | ± 5.4 | ± 3.2 | ± 1.37 | |
| | D . . . . . . . . | 2.2 | 3,5 | 0.6 | 1.9 | |

Тэорытычныя суадносіны морфолёгічных тыпаў у $F_3$ па розных фэнотыповых групах павінны быць наступнымі (гл. табл. 20).

Табліца № 20.

| Фэнотыповыя групы<br>Фенотипические группы | Генотыпы<br>Генотипы | Суадносіны ў $F_3$<br>Соотношение в $F_3$ | | |
|---|---|---|---|---|
| | | Inflatum і subinflatum | Rigidum, subrigidum і блізкі rutenicum | Rutenicum |
| 1. Inflatum і subinflatum | 1. $R_1 R_1 R_2 R_2$ JJ . . . . . . . | 64 | — | — |
| | 2. $R_1 R_1 R_2 R_2$ Ji . . . . . . . | 96 | 32 | — |
| | 4. $R_1 R_1 R_2 r_2$ JJ и $R_1 r_1 R_2 R_2$ JJ | 256 | — | — |
| | 8. $R_1 R_1 R_2 r_2$ Ji и $R_1 r_1 R_2 R_2$ Ji . | 384 | 128 | — |
| | 4. $R_1 r_1 R_2 r_2$ JJ . . . . . . . | 256 | — | — |
| | 2. $R_1 R_1 r_2 r_2$ JJ и $r_1 r_1 R_2 R_2$ JJ . | 128 | — | — |
| | 4. $R_1 R_1 r_2 r_2$ Ji и $r_1 r_1 R_2 R_2$ Ji . | 192 | 64 | — |
| | 4. $R_1 r_1 r_2 r_2$ JJ и $r_1 r_1 R_2 r_2$ JJ . | 256 | — | — |
| | 1. $r_1 r_1 r_2 r_2$ JJ. . . . . . . | 64 | — | — |
| | | 1696 | 224 | 0 |
| | Суадносіны / Отношение . . . . . | 53 | 7 | — |
| 2. Rigidum и subrigidum | 1. $R_1 R_1 R_2 R_2$ ii . . . . . . . | — | 64 | — |
| | 4. $R_1 R_1 R_2 r_2$ ii и $R_1 r_1 R_2 R_2$ ii . | — | 256 | — |
| | 8. $R_1 r_1 R_2 r_2$ Ji . . . . . . | 240 | 264 | 8 |
| | 4. $R_1 r_1 R_2 r_2$ ii . . . . . . | — | 240 | 16 |
| | 8. $R_1 r_1 r_2 r_2$ Ji и $r_1 r_1 R_2 r_2$ Ji. . | 192 | 288 | 32 |
| | 2. $R_1 R_1 r_2 r_2$ ii и $r_1 r_1 R_2 R_2$ ii . | — | 128 | — |
| | | 432 | 1240 | 56 |
| | Суадносіны / Отношение . . . . . | 54 | 155 | 7 |
| 3. Блізкі rutenicum<br>3. Близкий rutenicum | 4. $R_1 r_1 r_2 r_2$ ii и $r_1 r_1 R_2 r_2$ ii . . | — | 12 | 4 |
| | 2. $r_1 r_1 r_2 r_2$ Ji . . . . . . . | 2 | 4 | 2 |
| | | 2 | 16 | 6 |
| | Суадносіны / Отношение . . . . . | 1 | 8 | 3 |
| 4. Rutenicum | 1. $r_1 r_1 r_2 r_2$ ii . . . . . . . | — | — | 1 |

Даныя гібрыдолёгічнага аналізу фэнотыповых груп у $F_3$ зьведзены ў табліцы № 21.

Табліца № 21

| №№ скрыжаваньняў / №№ скрещиваний | Фэнотыповыя групы / Фенотипические группы | Значэньне лічбаў / Значение чисел | Фэнотыповыя групы ў $F_3$ / Фенотипические группы в $F_3$ Inflatum | Rigidum | Rutenicum | Лік выпадкаў / Число случаев |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Скрыжаваньне № 333 Скрещивание № 333 | Inflatum | Ідэальныя лічбы (l) / Идеальные числа „ | 53 | 7 | — | — |
| | | Нагляданыя лічбы (p) / Наблюдаемые числа „ | 11 | 1 | 0 | n - 12 |
| | | Чаканыя лічбы (q) / Ожидаемые числа „ | 10,6 | 1,4 | 0 | — |
| | | ± m . . . . . | ± 1,1 | ± 1,1 | — | — |
| | | D . . . . . . | 0,4 | 0,4 | — | — |
| | Rigidum | Ідэальныя лічбы (l) / Идеальные числа „ | 54 | 155 | 7 | — |
| | | Нагляданыя лічбы (p) / Наблюдаемые числа „ | 13 | 36 | 1 | n - 50 |
| | | Чаканыя лічбы (q) / Ожидаемые числа „ | 1,25 | 35,9 | 1,6 | — |
| | | ± m . . . . . | ± 3,0 | ± 3,2 | ± 1,2 | — |
| | | D . . . . . . | 0,5 | 0,1 | 0,6 | — |
| Скрыжаваньне № 483 Скрещивание № 483 | Блізкі rutenicum / Близкий rutenicum | Ідеальныя лічбы (l) / Идеальные числа „ | 1 | 8 | 3 | — |
| | | Нагляданыя лічбы (p) / Наблюдаемые числа „ | 0 | 16 | 3 | n - 19 |
| | | Чаканыя лічбы (q) / Ожидаемые числа „ | 1,58 | 12,66 | 4,75 | — |
| | | ± m . . . . . | ± 1,2 | ± 2,0 | ± 1,8 | — |
| | | D . . . . . . | 1,58 | 3,34 | 1,75 | — |

Як бачым, атрыманыя адносіны (праўда на досыць абмежаваным матэрыяле) досыць блізка стаяць да тэорытычных, што пацьвярджае высунутае намі палажэньне генотыповага складу інфлятнай групы рас мяккай пшаніцы.

Var Horogi адносіцца таксама да групы бязьлігульных пшаніц. Гібрыдолёгічны аналіз дазваляе адзначыць у даным скрыжаваньні дзігібрыдны характар расшчапленьня па адзнацы лігульнасьці 8 : 114, што блізка да тэорытычнага 1 : 15. Значыць, удзельнічаўшая ў скрыжаваньні лігульная форма v. lutescens Макензе характарызуецца двума адназнач-

